Наш каляндар

## МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

Пра пісьменніка, звычайна, кажуць, што ён „з'явіўся", „увайшоў" або „ўступіў" у літаратуру. Пра Міхася Зарэцкага будзе больш адпаведным сказаць: ён напорыстым віхрам уварваўся ў беларускую літаратуру і сваімі творамі з месца запаланіў і чытачоў і крытыкаў.

І не выпадкова. М. Зарэцкі (сапраўднае прозвішча Міхась Касянкоў) — сын вясковага дзячка і сялянкі, нарадзіўся 20 лістапада 1901 г. у сяле Высокі Гарадзец на Віцебшчыне, вучань духоўнага вучылішча ў Оршы, затым навучэнец духоўнай семінарыі ў Магілёве, а з 1919 г. настаўнік на Магілёўшчыне і, урэшце, салдат Чырвонай Арміі з 1920 па 1927 г.г. — з вялікім талентам адлюстроўваў у сваіх творах дух часу. „Служба ў Чырвонай Арміі, — пісаў ён, — адыграла, мне здаецца, рашаючую ролю ў канчатковым фарміраванні маёй псіхалогіі. Бясконцыя блуканні з месца на месца, безліч назіранняў і ўражанняў, блізкае знаёмства з дзесяткамі і сотнямі самых разнастайных чалавечых тыпаў — усё гэта ўзбагаціла мяне невычэрпным запасам матэрыялу, які я выкарыстаў пасля ў шэрагу сваіх апавяданняў". Першы твор адаронага пісьменніка паявіўся ў 1921 г., а праз некалькі год, бы з рога дастатку, пасыпаліся з друку зборнікі яго апавяданняў „У віры жыцця" (1925), „Пела вясна" (1925), „Пад сонцам" (1926), „42 дакументы" (1926), аповесць „Голы звер" (1926), славуты раман „Сцежкі-дарожкі" (1927), п'есы „Віхор на балоце" (1928) і „Белыя ружы" (1929). У гэтых творах ён перш за ўсё на фоне вострых супярэчнасцей жыцця, якімі была багата тадышняя рэчаіснасць, прасочвае, як рэвалюцыйныя перамены ў грамадстве ўплываюць на псіхалогію людзей і іх лёс. А ў рамане „Сцежкі-дарожкі" перад яго галоўным героем семінарыстам Лясніцкім „Пасланіся перад вачмі бязмежныя сцежкі-дарожкі, пераплёталіся пераплётам заклятым — не згадаць, па якой трэба пайсці, каб патрапіць на правільны шлях". Але пасля доўгіх і пакутлівых пошукаў і блуканняў па жыцці, азараным полымем рэвалюцыі, ён усё ж знаходзіць сваё месца ў жыцці. М. Зарэцкі быў пісьменнікам вельмі чулым на важкія грамадскія зрухі. Калі ў Беларускай ССР разгарнулася калектывізацыя сельскай гаспадаркі, з-пад яго пяра выходзяць нарысы „Падарожжа на новую зямлю", „Лісты ад знаёмага", „Вясна 1930 года", у якіх знайшла адлюстраванне перабудова традыцыйнага вясковага спосабу жыцця на сацыялістычныя рэйкі. Але найбольш яркі і шматпланавы паказ гэтая тэма знайшла ў рамане „Вязьмо" (1932) — творы, прасякнутым думкай, што перабудаваць жыццё ў вёсцы можна толькі ўшаноўваючы асобу і працу земляроба, які корміць увесь свет.

Творчасць М. Зарэцкага абарвалася ў самым росквіце яго таленту. Заўчасная смерць спасцігла яго 13 чэрвеня 1941 года. Імя ж яго ўпісалася ў гісторыю нашай літаратуры як аднаго з самых буйных яе стваральнікаў.

**І. Снарскі**



*Жонка Браніслава Тарашкевіча, Ніна Аляксандраўна, (на першым плане) ў кутку Б. Тарашкевіча бельскага белліцэя.*

## НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА

Была гэта пятніца 22 кастрычніка бягучага года. Здавалася б, дзень, як і ўсе іншыя дні ў школе. Урокі, перапынкі... Але ў атмасферы гэтай школьнай штодзённасці адчувалася нейкая святочная прыўзнятасць. Быццам бы некага чакалі. І вось празвінеў апошні званок, паведамляючы аб канцы школьнага дня ў беларускім ліцэі ў Бельску. Але на гэты раз ніхто не накіраваўся ў раздзявальню. Усе перайшлі ў залу фізкультурных заняткаў і, заняўшы месцы на раней падрыхтаваных лаўках, некага чакалі. Каго?

І раптам у дзвярах паявілася пажылая, з прыемным тварам і шчырымі вачыма жанчына. Гэта Ніна Аляксандраўна Тарашкевіч, жонка Браніслава Тарашкевіча, імя якога ад 1969 г. носіць мясцовы белліцэй. Пачулася „Добры дзень" — і залу заліла хваля апладысментаў. У вачах Ніны Аляксандраўны паявіліся слёзы.

Яна першы раз у Польшчы. Прыехала з далёкай Масквы. І вось цяпер яна ў школе, якая носіць імя яе мужа. Ёсць чаго хвалявацца. Успомнілася мінулае, успомніліся гады, калі яны былі разам. А цяпер яна між вучняў агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання, з той мовай, якую так любіў Тарашкевіч і ў развіццё якой унёс такі вялікі ўклад. Ён жа з'яўляецца аўтарам першай беларускай граматыкі, ён пераклаў на беларускую мову „Іліяду" і „Пана Тадэуша", над якім даводзілася працаваць у цяжкіх умовах.

Прайшло хвіліннае хваляванне, выкліканае ўспамінам, і ўсе паселі. Пасля кароткага ўводнага слова, сказанага дырэктарам Аляксеем Карпюком, выступіў вядомы беларускі паэт Віктар Швед, які спадарожнічаў Ніне Аляксандраўне, і ў некалькіх сказах расказаў пра жыццё і дзейнасць Браніслава Тарашкевіча. Потым госцю засыпалі пытаннямі. А пасля па зале расплыліся песні школьнага дзявочага хору, які дзейнічае пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. І наступіў час развітання. Зноў праз мікрафон у гучнагаварыцелі ўліўся дрыжачы ўсхваляваны голас, перадаючы шчырыя пажаданні ўсім маладым людзям, якія вучацца ў гэтай школе. Вучні памалу пачалі разыходзіцца, а мы накіраваліся на першы паверх у класа-кабінет гісторыі. На сценах партрэты заслужаных людзей. Ёсць тут і куток Браніслава Тарашкевіча. Таіса Білецкая, выкладчыца гісторыі, стараецца ўсё падрабязна тлумачыць. А калі падарожжа па „гісторыі" было закончана, наступіў урачысты момант подпісаў у памятнай кнізе, па якой было відаць, што ўжо не адзін госць наведаў гэтую школу і гэты класа-кабінет. Позна. Час вяртацца. Але настаўнікі тут надта ж гасцінныя. Не адпусцяць так. Трэба ж чайку выпіць ды і бутэрбродам пачаставацца. Да Беластока ж далёка. Сустрэча прадаўжаецца яшчэ гадзіну. Зноў шчырая размова. І толькі тады, калі на вокны асела ноч, наступіла канчатковае развітанне. Зноў вярнулася штодзённасць, але ў сэрцы Ніны Аляксандраўны і ў сценах белліцэя сустрэча гэтая пакінула незабыўны след.

**М. Шаховіч**

Фота Валянціна Лапцева

## ГАВОРКІ СЛАВЯНШЧЫНЫ

Даўняя ідэя апрацавання такога выдання, якое б давала па меры магчымасці вычэрпваючае ўяўленне аб асаблівасцях усіх гаворак славянскіх народаў, у нашыя дні ўжо блізкая здзяйсненню: пры Міжнародным камітэце славістаў актыўна дзейнічае Міжнародная камісія па стварэнню **Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа.**

Пасля некалькіх год усебаковай падрыхтоўкі 11 год таму назад пачаліся працы па збіранню моўнага матэрыялу ў выбраных вучонымі 849 мясцовасцях, рассеяных па ўсёй Славяншчыне, у іх ліку 72 мясцовасцях на тэрыторыі Беларускай ССР. Ва ўсіх іх даследчыкі выяўлялі і рэгістравалі больш 2500 моўных з'яў з фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу і лексікі гаворак. У выніку сабрання аграмаднага матэрыялу будзе апрацавана і выдадзена звыш 2 500 картаў атласу, а кожная з іх будзе мець адначасова з факталагічным матэрыялам спецыяльны навуковы каментарый тае моўнай з'явы, якой прысвечана даная карта. Гэтыя карты будуць выходзіць паасобнымі выпускамі, прыкладна па 50 штук у кожным выпуску. Першы такі выпуск, у складзе якога 54 карты, ужо падрыхтаваны. Ён прысвечаны назвам некаторых дзікіх звяроў, птушак і іншых жывых істотаў. Варта пры гэтым заўважыць, што вучоныя-моваведы Беларускай ССР уносяць свой значны ўклад у падрыхтоўку атласу, між іншым, для першага выпуску яны падрыхтавалі 8 лінгвістычных карт з каментарыямі. Наступны выпуск карт будзе прысвечаны розным паняццям па жывёлагадоўлі і будзе падрыхтаваны ў пачатку будучага года. І тут варта прыгадаць некалькі цікавых фактаў: у розных славянскіх гаворках наша паняцце „збожжа" мае 30 назваў, „слімак" — аж звыш 100 назваў, а „возера"

(Працяг на стар. 4)

Наша галерэя

*Міхась Савіцкі, Мінск. „Віцебскія вароты".*

## АДГАЛОСКІ

### АДКАЗ МАЛАНЦЫ

*Папалася „Ніва"*
*мне з самага ранка,*
*чытаў я шчасліва,*
*як паліць Маланка.*
*Цягнуць ці не цягнуць?*
*А хто яго знае,*
*няхай сабе цягнуць,*
*як ў бацькі хапае.*
*Судзіць я не буду,*
*сваіх дзяцей маю.*
*Пішу, што я бачыў,*
*і тое, што знаю.*
*Як быццам Маланка*
*аб гэтым не знае,*
*хто блёкі і мэблю*
*купляць памагае;*
*што вісяць каўбаскі,*
*аж міла глядзеці:*
*няхай падсыхаюць,*
*прыедуць мо дзеці.*
*Не толькі аб дзецях,*
*што выйшлі вучыцца,*
*што ўспелі на вёсцы*
*ужо пажаніцца.*
*Ды ў вёсцы не мучаць*
*цяжкія работы,*
*хіба дапякаюць*
*якія клапоты.*
*Што ў лета паробіш*
*ад світу да змроку,*
*затое зімою*
*пралежыш на боку.*
*Цапы, серпы, косы*
*людзей не намучаць,*
*а пілы і жорны*
*маторыкі круцяць.*
*Пагарэ часамі,*
*калі хто захоча,*
*прыпрэ чорт з плугамі,*
*цягне і рагоча.*
*Або цяпер хочаш*
*граблямі махаці,*
*хіба табе цяжка*
*каня паганяці?*
*Гатовы снапочкі —*
*бяда пазбіраці?*
*Свішчучы ў радочкі*
*можна паўстаўляці.*
*І водпуск заўсёды*
*можаш сабе ўзяці,*
*як куды паехаць*
*ці то паляжаці.*
*А чаму ўцякаюць,*
*не цяжка узнаці —*
*самых іх жа трэба*
*аб гэтым спытаці.*
*Бо ў месце, як стане*
*да адной работы,*
*зараз прападаюць*
*думкі і клапоты:*
*што печы валяцца*
*(іх трэба рабіці),*
*да дроў трэба ўзяцца*
*(а сколь навазіці?).*
*Што, бачыш, карова*
*не можа сцяліцца,*
*што клуня старая*
*пачала хіліцца,*
*што конь захварэе*
*і свінні здыхаюць,*
*мукі есць не хочуць,*
*мяшанкі не маюць;*
*што воз ўзяў растросся*
*і плуг ўжо згараўся.*
*Як гэта наладзіў,*
*хамут разарваўся.*
*Што збожжа у полі*
*градам выбівае,*
*што дзік усё бульбу*
*ўначы кавырае.*
*А ў сена сухое*
*калі стане ліці,*
*тады пачынае*
*пячонка зноў гніці.*
*Або паліць сонца,*
*усё выпякае,*
*тады проста розум*
*табе высыхае.*
*Яшчэ жыццё, кажуць,*
*на вёсцы такое,*
*хоць маеш мільёны,*
*ўсяжно пахнеш гноем.*
*Каб мог гэта збыці*
*клапоты і троскі,*
*зноў пёр бы рабіці*
*да роднае вёскі.*

**А. Леўшук**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астронку! Прысніўся мне нештодзённы сон, які, думаю, павінен цябе зацікавіць. Быццам знаходжуся я ў Празе. І вось зайшла ў прадуктовы магазін і купляю хлеб. А хлеба вялікі бохан, ён пульхны, але не белы і не чорны, а такі нейкі сярэдні колер. Я пачынаю рэзаць гэты хлеб на чвэрткі (бяру ад прадаўшчыцы нож, бо думаю, што яна не ўмее дзяліць бохана так, як у нас). Плачу за хлеб, а прадаўшчыца кідае мне на прылавак цэлую жменю дробных манет. Мой кашалёк ляжыць таксама на прылаўку, бо хачу туды палажыць атрыманую рэшту. У гэты момант паяўляецца злодзей. Ён хапае мой кашалёк і ўцякае. Я за ім. Крычу: „Лавіце злодзея!“ Ён бачыць, што я яго даганяю, тады працягвае мне мой кашалёк. Я бачу, што стаіць міліцыя ці нейкія стражнікі два ў цёмных мундзірах і кажу ім, што вось злодзей, які хацеў украсці мой кашалёк. Але яны мне сказалі, што не могуць яго арыштаваць, бо не маюць ніякіх доказаў, што ён краў мой кашалёк. Прачнулася.

Галіна

Галіна! Сон ваш сапраўды можа зацікавіць. Вы былі заграніцай, а гэта ж абазначала б нейкую перамену на лепшае. Хлеб быў свежы і пульхны, дык абазначала б гэта здароўе і задавальненне, хаця і не быў ён зусім белы. Нож у вашых руках быў толькі неабходнай прыладай, каб парэзаць хлеб, так, што, думаю, вялікіх непрыемнасцей у вас не будзе. Будуць, аднак, і нікуды ад гэтага не ўцячэце, дарэмныя клопаты (дробныя манеты), пагражае вам нейкая небяспека, варожасць (вы ж бачылі злодзея). Злодзея вы ўсё ж дагналі, і ён аказаўся слабейшым за вас, дык думаю, гэтую небяспеку вы адолееце. Калі б вы не атрымалі назад свайго кашалька, азначала б гэта нейкую салідную страту.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ШЛЮБНАЯ СУКЕНКА

Набліжаецца пара найбольшай колькасці шлюбаў. Кожная дзяўчына ў духу марыць аб тым, каб у гэты дзень выглядаць цудоўна, непаўторна, так, каб усе госці анямелі ад захаплення.

Якую ж варта зрабіць сукенку? Ці простую, ці больш урачыстую, з вэлюмам ці без яго, доўгую ці кароткую?..

А ўсё ж урачыстую, хаця, здавалася б, што прастата пачала дамінаваць у нашыя часы. Як прыгожа выглядае стройная дзявочая постаць з атласнай істужкай у таліі, завязанай ззаду на вялікі аздобны бант! А як цудоўна пры гэтым выглядае вэлюм, аздоблены такімі ж кветкамі, якія трымае ў руцэ нявеста!

Вельмі прыгожа выглядаюць сукенкі ў рамантычным стылі. Нішто так не падкрэслівае маладосці і прыгажосці, як белы колер. А калі спалучыць яго з фальбанкамі, мярэжкай, далікатнай аплікацыяй, белымі карункамі...

Аб адным неабходна памятаць: матэрыял павінен быць добрага гатунку, аб ніякіх заменах не можа быць мовы.

Ну, і яшчэ адно. Каб не перасаліць! Нягледзячы на ўрачыстасць, нявеста заўсёды павінна выглядаць скромна.

**Сяброўка**



## Сардэчныя тайны

Дарагое „Сэрцайка“, у кастрычніку хлопец мой пайшоў у войска. Перад адыходам бацькі зрабілі гасціну. Было шмат яго сяброў, сябровак, сярод іх і я. І шкадую вельмі, што я тут апынулася, бо ў гэты вечар усё між намі скончылася. А яшчэ ў папярэдні дзень сядзелі мы доўга, размаўлялі аб планах на будучыню, усё было як найлепш. І вось, каб не гэты вечар... Спачатку было весела, прыемна, гутарылі, спявалі і ў пэўнай хвіліне аднаму хлопцу задумалася прынесці гітару. Ён жыў недалёка і папрасіў, каб я з ім пайшла. Мы хутка вярнуліся. Але я заўважыла, што Віця, мой хлопец, не хоча са мной гаварыць. Я вельмі здзівілася, чаго ж гэта ён пакрыўдзіўся на мяне. Што ж такое, што я на хвілінку са знаёмым хлопцам, яго сябрам, выйшла па гэтую гітару? А ён гэта прыняў як здраду. Віця сказаў, што канец з намі, калі я так паступаю. І пры аказіі выгарнуў розныя дробязі, на якія я ўвогуле не звяртала ўвагі... Ужо ён у войску, а я вельмі сумую за ім. Шкадую, што так мы рассталіся. Не напісаў ён да мяне яшчэ пісьма і не ведаю, ці адгукнецца. Сэрцайка, што рабіць, як вярнуць страчанае?..

Ася з Гайнаўшчыны

Ася! Твой хлопец празмерна зайздросны. З спраў благіх, дробных, робіць праблемы. Ён яшчэ малады, можа вырасце з гэтага. Калі кахаў ён цябе, дык з-за такой дробязі каханне яго не пагасла. Цяпер ён далёка і напэўна сумуе па табе не менш, чым ты па ім. Напішы яму сама.

**Сэрцайка**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЗААЛАГІЧНЫ УНІКУМ

У Руцаве — вёсцы, размешчанай за 50 кіламетраў ад прыморскага горада Ліепаі, 11-гадовы Айнар Вахманіс у садзе свайго дома натрапіў на заалагічны унікум — вужа з дзвюма галовамі. Загадчык аддзела музея прыроды Латвійскай ССР І. Сталбоў, на чыю апеку перададзены вуж, каменціруе гэты факт так:

— Двухгаловае — незвычайная і вельмі цікавая з'ява прыроды. На маёй памяці раней такога выпадку не было. Надзвычай цікава вывучыць узаемаадносіны двух аўтаномных цэнтраў, якія рэгулююць жыццё паўзуна, вывучыць, як уплываюць яны на характар яго паводзін і інстынкту.

Руцаўскай знаходкай, акрамя заолагаў, зацікавіліся і прадстаўнікі сумежных навук.




Камандзір і камісар вырашылі: няхай леснікі — Васіль Халецкі, браты Аляксандр і Павел Пінчукі — хваляцца перад лясьнічым і паповічам, што часта сустракаюць дзікоў, няхай распальваюць у Фенса паляўнічы азарт.

Групенфюрэр клюнуў на прынаду. Для пачатку прыслаў у Машукоўскі лес свайго халуя — паповіча. Некалькі гадзін вадзілі яго па лесе Халецкі і браты Пінчукі. Леснікі гаварылі праўду: паповіч сам бачыў двух дзікоў. Пераканаўся ён і ў другой іх праўдзе — партызан у лесе не было.

Паехаў паповіч у Баранавічы, а праз два-тры дні Шатырка пацвердзіў тое, аб чым здагадваўся камандзір. У тэрміновым данясенні ён паведамляў Арлоўскаму, што ў бліжэйшую нядзелю — 14 лютага — паляваць на дзікоў у Машукоўскі лес прыедзе Фенс са світай чыноўнікаў і афіцэраў-эсэсаўцаў. На гэтым паляванні Фенс загадаў быць і яму, начальніку паліцэйскага ўчастка Мікалаю Шатырку...

Арлоўскі і Івашкевіч добра падрыхтавалі атрад, каб „горача“ сустрэць высокіх паляўнічых. Але яны не прыехалі ў нядзелю, не было іх і ў панядзелак. „Мяркуючы па ўсім, Фенс адклаў паляванне на тыдзень-два“, — паведаміў Шатырка праз Аляксандра Федаровіча. Не сядзець жа атраду без работы гэты час. Адну за другой адправіў камандзір дзве групы байцоў. Збіраўся на сустрэчу з разведчыкам Басарыновічам і камісар атрада...

● ● ●

Позным вечарам 16 лютага 1943 года прыбег у атрад Васіль Халецкі і папрасіў зараз жа разбудзіць камандзіра. Спяшаючыся, ён расказаў Арлоўскаму, што заўтра ў Мяшкоўскі лес на дзікоў прыедзе галоўны камісар Баранавіч Фенс і з ім будзе нейкі вельмі важны начальнік з Мінска. Высокіх чыноў будзе суправаджаць і ахоўваць каманда эсэсаўцаў. З Баранавіч да Сіняўкі паляўнічыя будуць дабірацца на аўтамашынах, у Сіняўцы перасядуць у сані.

Не паспеў Арлоўскі добра распытаць Халецкага пра дарогу, якой будуць ехаць фашысты і ў якіх кварталах збіраюцца паляваць, як у зямлянку ўваліўся задыханы Аляксандр Федаровіч. Ён скінуў шапку-вушанку, кажушок. Густая пара валіла ў яго з галавы, са спіны.

— Ці не чэрці за табой гналіся, Саша? — спытаў Арлоўскі.

— Горш, таварыш камандзір. Заўтра, а можа ўжо і сёння на паляванне сюды прыедзе Фенс, эсэсаўскі генерал, гебітскамісар Баранавіцкай вобласці Шцюра і... сам гаўляйтэр Кубэ.

— Кубэ, кажаш? — Арлоўскі пераглянуўся з камісарам. Каго-каго, а Кубэ яны не чакалі. — І што, яны адны, без світы прыедуць?

— Не! Мікалай прасіў перадаць, што з імі будзе каля паўсотні эсэсаўцаў.

І Васіль Сцяпанавіч Халецкі, і Аляксандр Федаровіч былі лепшымі разведчыкамі атрада, яны не раз паведамлялі „Сокалам“ вельмі важныя звесткі. І цяпер іх паведамленні супалі. Аляксандру Федаровічу, пра маючае адбыцца паляванне гітлераўцаў у Машукоўскім лесе даручыў перадаць Шатырка: па заданні Арлоўскага ён працягваў служыць у паліцыі. Халецкі ж пра паляванне даведаўся „па сакрэту“ ад Сяргея Бабко, мясцовага ляснічага, агента СД. Бабко прасіў Халецкага быць праваднікам у паляўнічых, але Васіль Сцяпанавіч спаслаўся на хваробу і паспяшаўся з навіной у лес.

Моцна задумаўся Арлоўскі. Сілы былі надта няроўныя:

— Так, задача не простая. А, Рыгор Васільевіч? — звярнуўся Арлоўскі да камісара атрада.

Па вопыце Рыгор Васільевіч ведаў, што камандзір прыняў ужо рашэнне і цяпер толькі правярае сябе. Прыняў рашэнне і камісар атрада: што б там ні было арганізаваць засаду на паляўнічых. І таму ён цвёрда адказаў:

— Кірыла Пракопавіч, выпадак, можна сказаць, асаблівы, выключны. Высокія чыны самі пруць на ражон. Наладзім паляванне на паляўнічых!

— Дзякуй, Рыгор Васільевіч. Прызнацца, іншага адказу я ад цябе і не чакаў. Ты праўду кажаш — выпадак выключны, і не скарыстаць яго нельга. Будзем сустракаць „гасцей“ па-нашаму, па-партызанску. — І камандзір загадаў сабраць байцоў.

Праз некалькі мінут байцы атрада былі ў камандзірскай зямлянцы. Дапытліва азіраючы іх, Арлоўскі расказаў пра толькі што атрыманыя дадзеныя.

Загадаўшы байцам старанна праверыць зброю, Арлоўскі адпусціў сваіх баявых сяброў, а сам разам з камісарам і Васілём Халецкім схіліўся над картай.

— Вось і Раскоп, — камандзір алоўкам паказаў на скрыжаванне лясных дарог. — Твая праўда, Васіль Сцяпанавіч: паляўнічыя ніяк не мінуць яго.

Яны намецілі маршрут падыходу да Раскопа: трэба было ісці да месца засады, мінаючы дарогі, каб не пакінуць слядоў.

— Здаецца, усё прадугледзелі, — задумліва сказаў Арлоўскі. — Але мала нас, вельмі мала... Усяго дванаццаць чалавек.

— Трынаццаць, — удакладніў Халецкі. — Хіба я не баец? — у голасе лесніка чулася крыўда.

*(Працяг будзе)*

# МАЛЕНЬКІ

Мне здаецца, я зусім-зусім маленькі... Можа, і двух гадкоў яшчэ няма. Нават хадзіць як след не ўмею — тэпаю, трымаючыся за сцяну. А то і паўзком-рачком рухаюся. Так нават больш зручна — не ўпадзеш, не разаб'еш нос. Вось паўзу, паўзу, пакуль не натрапілася на шляху перашкода — плот... Плачу ад роспачы, але хіба маленькі ды кволы можа пералезці цераз высокую агароджу? Хутчэй адчуваю, чым бачу: нейкая цюцька падбегла і спачувальна ліжа мне твар... Дзякуй, шчырае дзякуй табе, верны друг чалавека!

А міма ідуць дзядзькі і цёткі, пазіраюць і смяюцца. І я, выціраючы слёзы, таксама смяюся. Рагачу, аж заліваюся, беступботна, як усе дзеці, нават жывоцік баліць ад смеху. І мне пад плотам зусім ужо добра, прыемненька гэтак: цянёк, зацішна, навакол траўка высокая, мурашачкі ды казюлькі па ёй розныя поўзаюць... А над галавой нейкае дрэва гойдаецца, шуміць, сумна так шуміць, закалыхвае: галоўка мая кружыцца, кружыцца, вочкі самі зліпаюцца, закрываюцца, спаць хочуць.

Але хіба дзядзькі могуць пакінуць маленькага аднаго без нагляду? Яны такія клапатлівыя, гэтыя дзядзькі... Лёганька, як пушынку, бяруць мяне пад пашкі і вядуць, бездапаможна. „Не чапайце мяне, — хачу сказаць ім. — Не чапайце... Хлопчыку трэба бай-бай...“

Хачу так сказаць, але нічога не атрымліваецца, акрамя мармытання: цяжка маленькаму гаварыць... Урэшце, мяне ніхто і слухаць не жадае, цягнуць у машыну і вязуць некуды. Ну няхай сабе вязуць — усё роўна.

Вось толькі калі мяне пачынаюць мыць пад душам, я пачынаю крышку ўпарціцца, капрызіць, як усе дзеці. Але дзядзькі-нянькі не звяртаюць аніякай увагі на мае капрызы, хуценька захінаюць у чыстую прасціну і кладуць у ложак. Ужо засынаючы, чую над сабой бурклівы, але ласкавы голас:

— Ну, уціхаміруйся, хлопчык... Здаецца, гэты патлаты нядаўна трапляў ужо да нас у выцвярэзнік?

**Я. Іваноў**



З паляўнічых прыгод.






Як абяспечыць індывідуальныя асаблівасці.

## КРЭМ-НАВІНКА

*Мне надоечы кузіна Зінка*
*(А па нашаму яно — сястра)*
*Самую найноўшую навінку —*
*Цудадзейны крэм перадала.*
*Кажа: „Ён прыплыў*
*з Пуэрта-Рыка,*
*З трэціх рук дасталі мне сябры.*
*Твар намажаш — будзеш моды*
*шыкам!*
*Ну і што, што сем рублёў? Бяры!“*
*Вечарам намазалася. Спала*
*Соладка!*
*І бачыла я ў сне,*
*Як акцёр Дэлон сярод парталаў*
*У каханні вечным кляўся мне.*
*Раніцай — да люстра.*
*Ажно крыкам!*
*І да Зінкі — біць у вокнах шкло:*
*Мне навінкай той*
*з Пуэрта-Рыка*
*Твар, як крапівою, апякло!*
*Падняліся, быццам цеста, шчокі,*
*Нос, бы пераспелы той тамат!*
*Што акцёр Дэлон! Мяне здалёку*
*Абягае мой сусед Ігнат!*
*Швагер мой той крэм узяў у рукі,*
*Пераклаў інструкцыю — і сеў.*
*Аж пішчыць ад смеху: „Гэта...*
*гэта*
*Трэба перадаць хутчэй у хлеў!*
*Крэм жа прызначаецца для*
*свінак,*
*Каб у іх не драцянела шчэць!“*
*...З дня таго я не хачу навінак*
*Ні з другіх, ні з трэціх рук*
*глядзець!*

**Паліна Маліна**

## НА ШЫРОКІМ

Сустрэлі габраўц
— Добры дзень!
прыехаў?
— У вясельнае
жа!
— А дзе ж нявес
— Засталася ў
Яна была ў Сафі
гадоў назад.

*

Вартавы аклікну
ка, які падыходзіў
— Я маёр Джон
заў той.
— Выбачайце, сэ
магу прапусціць ва
цыяльнага пропуск
— Не строй дур
дасканала мяне ве
проста забыў проп
Вартавы быў непа
— На жаль, сэр, я
права...
З караульні даної
лас:
— Ты што, усю но
ешся з ім вазіцца? П
лі яго — і канец.

*

— Дык, значыць,
наты ўжо трыццаць
Слова гонару, ты за
ваеш медаля.
— Ну, калі б ты вед
жонку, ты не гавар
так, а адразу ўзнаг
бы мяне крыжам з
расць.



**...Ён лічыў, што**
**„Не бойцеся цяж**
**адносіцца толькі**
**каатлетаў.**